**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 8.17, 16.22, 8.05;
Віцебск — 8.13, 16.06, 7.53;
Магілёў — 8.06, 16.12, 8.06;
Гомель — 7.57, 16.16, 8.19;
Гродна — 8.31, 16.39, 8.08;
Брэст — 8.24, 16.46, 8.22.

**МЕСЯЦ:**

Першая чвэрць 13 студзеня.

**ІМЯНІНЫ:**

Міхея, Апалінарыя, Міны, Рыгора, Малгажаты, Пятра

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

18 студзеня 1992 г.
субота, № 11 (21789)

## РОЗГАЛАС

ПАСТАНОВА САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ РОЗНІЧНЫХ ЦЭНАХ НА ХЛЕБ І ХЛЕБАБУЛАЧНЫЯ ВЫРАБЫ, МАЛАКО І МАЛАКАПРАДУКТЫ Ў І КВАРТАЛЕ 1992 г.

**У мэтах стварэння ўмоў для пераходу рэспублікі да рыначных адносін і выраўноўвання ўзроўню цэн на харчовыя тавары з суседнімі дзяржавамі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

**1. Захаваць дзяржаўнае рэгуляванне рознічных цэн і ўстанавіць з 20 студзеня 1992 г. гранічныя ўзроўні іх павышэння на:**

**жытнія і жытна-пшанічныя сарты хлеба (акрамя заварных і палепшаных сартоў), батон просты з мукі пшанічнай I гатунку, батон пшанічны з мукі вышэйшага гатунку і дыетычныя хлебныя вырабы — у 3 разы;**

**малако натуральнае, смятанку, кісламалочныя прадукты, смятану, тварог і тварожныя вырабы, сыры мяккія — у 3 разы;**

**малочнае і пладова-агародніннае дзіцячае харчаванне — у сярэднім у 2 разы;**

**масла — у 5 разоў.**

**2. Перайсці з 20 студзеня 1992 г. да прымянення свабодных розничных цэн на:**

**хлебабулачныя вырабы з мукі жытняй сеянай, мукі пшанічнай вышэйшага, першага і другога гатункаў (акрамя ўказаных у пункце 1 гэтай пастановы), заварныя і палепшаныя сарты хлеба;**

**кансервы малочныя;**

**сыры (акрамя мяккіх);**

**сухія малочныя прадукты.**

**3. Дзяржэканомплану зацвердзіць і ўвесці ва ўстаноўленыя тэрміны прэйскуранты дзяржаўных розничных цэн на прадукты харчавання, якія рэалізуюцца па дзяржаўных фіксаваных цэнах.**

**4. Устанавіць, што пры рэалізацыі хлеба і хлебабулачных вырабаў, малочных прадуктаў па свабодных цэнах прымяняецца гандлёвая надбаўка ў размеры не больш 15 (па сістэме Белкаапсаюза — 20) працэнтаў да свабоднай адпускной цаны.**

**Захаваць на I квартал 1992 г. дзеючыя гандлёвыя скідкі пры рэалізацыі па дзяржаўных фіксаваных цэнах харчовых тавараў, указаных у пункце 1 гэтай пастановы.**

**5. Прадпрыемствам-вытворцам пры вызначэнні свабодных адпускных цэн на хлеб і хлебабулачныя вырабы, малочныя прадукты зыходзіць з гранічнага ўзроўню рэнтабельнасці (налічваецца да сабекошту) па хлебабулачных вырабах і малочных кансервах — 15 працэнтаў, па малакапрадуктах — 8 працэнтаў.**

**Устанавіць, што прыбытак, які атрымліваецца звыш указаных гранічных узроўняў рэнтабельнасці, залічваецца ў рэспубліканскі бюджэт і накіроўваецца на датаванне прадукцыі, на якую захоўваецца дзяржаўнае рэгуляванне розничных цэн.**

**6. Устанавіць, што датацыі (розніца паміж дагаворнымі аптова-адпускнымі цэнамі з улікам гранічнага ўзроўню рэнтабельнасці і розничнымі цэнамі за вылікам гандлёвых скідак) па хлебу і хлебабулачных вырабах, малаку і малакапрадуктах, дзіцячаму харчаванню, якія прадаюцца насельніцтву па фіксаваных дзяржаўных розничных цэнах, выплачваюцца вытворцам (па месцы вытворчасці ўказанай прадукцыі) з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў.**

**Міністэрству фінансаў сумесна з зацікаўленымі ўстанавіць парадак выплаты ўказаных датацый.**

**7. Міністэрству гандлю, Белкаапсаюзу, арганізацыям і прадпрыемствам, якія маюць гандлёвую сетку, ажыццявіць пераацэнку харчовых тавараў, якія рэалізуюцца з 20 студзеня 1992 г. па свабодных цэнах, з каэфіцыентам 3, а пераацэнку харчовых тавараў, якія рэалізуюцца па фіксаваных цэнах, — у адпаведнасці з прэйскурантамі Дзяржэканомплана.**

**8. Захаваць парадак размеркавання сум даацэнкі тавараў, устаноўлены пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1991 г. № 501 «Аб пераацэнцы прадукцыі і тавараў у сувязі з лібералізацыяй цэн».**

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь
В. КЕБІЧ
Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь
М. КАЎКО**

16 студзеня 1992 г. г. Мінск.

## ЦЭНЫ НА ДАСТАЎКУ ГАЗЕТ РАНЕЙШЫЯ

**ПАКУЛЬ ШТО.
АЛЕ СУВЯЗІСТЫ ЎСЁ РОЎНА АБЯЦАЮЦЬ «ПАТРЭСЦІ»**

**Як толькі стала вядома, што нашы газеты і часопісы не прымаюць новых тарыфаў на дастаўку выданняў, прадстаўнікі Міністэрства сувязі селі з журналістамі за стол перагавораў. Сам гэты факт, безумоўна, можна было б аднесці да ліку здабыткаў, калі б не адна акалічнасць: працаўнікам рэспубліканскай перыёдыкі імкнуліся, як кажуць «выкруціць рукі» і даказаць, што настала пара як след «патрэсці» кішэні падпісчыкаў. Журналісты ж, адстойваючы інтарэсы падпісчыкаў, з прапановай сувязістаў не згадзіліся. Па ўсім відаць, што гэта «вайна» набудзе зацяжны характар, бо, як заяўлена сувязістамі, перыядычныя рэспубліканскія выданні будуць дастаўляцца падпісчыкам па старых цэнах толькі на працягу першага квартала. Прапанавана з чэрвеня правесці перападпіску, у выніку якой кошт гадавой падпіскі, скажам, на «Звязду» можа скласці звыш сотні рублёў (!). Зазначым, што ў Расіі вырашана не знішчаць галоснасць. Там цэны на перыёдыку засталіся ранейшымі. Хочаш — не хочаш, а давядзецца, відаць, беларусам ісці ў рынак, чытаючы рэкамендацыі ў газетах «старэйшага брата».**

**В. ХУРСІК.**

## ЗАЦВЕРДЖАНЫ ТЭКСТ ВАЕННАЙ ПРЫСЯГІ

На рабочай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў зацверджаны тэкст ваеннай прысягі для ваеннаслужачых, якія праходзяць службу ў сілах агульнага прызначэння:

«Я (прозвішча, імя, імя па бацьку), паступаючы на ваенную службу, прысягаю на вернасць народу (назва дзяржавы, грамадзянінам якой з'яўляецца ваеннаслужачы) і клянуся свята вы**конваць Канстытуцыю і законы маёй дзяржавы і дзяржавы Садружнасці, на тэрыторыі якой выконваю воінскі абавязак.**

**Я абавязваюся безагаворачна выконваць ускладзеныя на мяне абавязкі, воінскія статуты, загады камандзіраў і начальнікаў.**

**Калі ж я парушу гэтую маю ваенную прысягу, дык гатовы несці ўстаноўленую законамі адказнасць».**

## Сустрэча С. С. Шушкевіча з фермерамі

Дзесяткі складанейшых праблем выклалі перад Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам фермеры Магілёўшчыны на прайшоўшай 17 студзеня абласной нарадзе.

Новая форма гаспадарання на зямлі пакуль што робіць першыя крокі. У вобласці працуе ўсяго толькі 117 фермерскіх гаспадарак, у распараджэнні якіх крыху больш чым тры тысячы гектараў зямлі, або ў сярэднім па 26 на кожную.

На сустрэчы з фермерамі, ішоў дзелавы і канструктыўны пошук шляхоў развіцця гэтай новай формы гаспадарання.

18 студзеня С. Шушкевіч пабывае на будуемым Беларускім цэментным заводзе, наведае ў Касцюковіцкім раёне гаспадаркі, якія пацярпелі ад радыяцыі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

## Цэны не толькі растуць

**ГРОДНА (Б. Пракопчык). У Гродзенскім універмагу нядаўна адкрылі аддзел па продажу... каўбас. Чэргаў тут няма, але некаторыя змены ўсё ж адбываюцца. Яшчэ некалькі дзён назад кілаграм каўбасы «Талінскай» каштаваў 115 рублёў. Пакупнікоў практычна не было, і вось учора за гэтую каўбасу гандаль прасіў ужо 90 рублёў.**

# ПАСЛЯ ЦЭНАВАГА ЎДАРУ—УДАР ПАДАТКОВЫ

**Займацца палітычнымі прадказаннямі — справа ўвогуле дарэмная, бо ў большасці выпадкаў усё роўна мала што ўгадаеш. Возьмем, аднак, на сябе смеласць сцвярджаць: кожны можа сёння спрагназіраваць, наколькі «радасным» будзе ў бліжэйшыя месяцы сацыяльна-палітычны фон у Беларусі. Гэтаму, у першую чаргу, садзейнічае непадрыхтаваная лібералізацыя цэн. І яшчэ — новае падатковае заканадаўства.**

**Мы, зразумела, былі б рады, каб нашы вывады ў далейшым не пацвердзіліся. Аднак першая рэакцыя чытачоў на некаторыя палажэнні змешчанага ў «Звяздзе» 16 студзеня Закона «Аб падаходным падатку з грамадзян» сведчыць аб дастаткова крытычным яго ўспрыманні. Частку пытанняў па просьбе рэдакцыі каменціруе галоўны падатковы інспектар Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі Мінфіна рэспублікі А. ПАЛЯКОЎ.**

**— Паколькі цэны на прадукты сёння астранамічныя, ды яшчэ адчуваецца яўны іх недахоп, то зразумела, чаму людзі адразу звяртаюць увагу на наступны момант: даходы грамадзян ад рэалізацыі прадукцыі асабістай падсобнай сельскай гаспадаркі падаткам абкладацца не будуць. А гараджане — яны будуць плаціць падаткі, калі прададуць ураджай з дачнага ўчастка? Чым супакоім, Аляксандр Васільевіч, іх хваляванні? Дарэчы, заўважылі гараджане і тое, што калгаснікі сёлета падаткі плаціць не будуць.**

— Тым, хто не ведае, растлумачу: раней самі гаспадаркі плацілі падаткі за членаў калгасаў. Цяпер прымяняецца іншы падыход — кожны працаўнік плоціць сам за сябе. Сёлетні ж год адпушчаны, скажам так, на своеасаблівую падрыхтоўку — калгаснікам патрэбны час, каб знайсці неабходныя сродкі.

Што датычыць дачнікаў, то і з іх не будуць спаганяцца падаткі з даходаў за продаж ураджаю з уласнага ўчастка, таму што дачы якраз і знаходзяцца ў сельскай мясцовасці.

**— Многія скаргі з'явіліся на глебе сацыяльнай несправядлівасці, так ва ўсякім разе лічаць іх аўтары. Не, яны не супраць таго, што, скажам, тыя, хто прымаў удзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, маюць ільготы па падатках. Аднак падкрэсліваецца, што нямала дзялкоў здабылі пасведчанні ліквідатараў незаконна, па знаёмству і за хабар. Пытанне ставіцца так: няўжо мы, сумленныя працаўнікі, і ў гэтым выпадку павінны аплачваць прайдзісветаў?**

— Абурэнне зусім справядлівае: непарадкаў у гэтай справе хапае. Але ж тут поле дзейнасці не для падатковай інспекцыі. Усе гэтыя хібы ляжаць на сумленні тых органаў улады раёнаў і абласцей, дзе рыхтаваліся і выдаваліся адпаведныя дакументы і пасведчанні. Пры наяўнасці падстаў яны абавязкова павінны пераглядаць свае рашэнні. Наогул жа падобныя выпадкі трэба разглядаць як урон дзяржаве.

**— Можна канстатаваць, што ў сацыяльнай сферы разбураюцца апошнія бастыёны сталінска-таталітарнага падыходу да чалавека. Усе мы цяпер ведаем, як адносіліся ўлады да тых савецкіх грамадзян, якія пацярпелі ад рэпрэсій, якія былі ў час вайны ў палоне, а потым змагаліся з гітлерызмам у складзе антыфашысцкага Супраціўлення. Пра пенсіі ды падатковыя паслабленні ім не было чаго і думаць.**

— Цяпер усё становіцца на свае месцы. Тыя грамадзяне, якія ваявалі з фашысцкай Германіяй на тэрыторыі замежных краін у складзе партызанскіх атрадаў, іншых фарміраванняў, поўнасцю вызваляюцца ад падаткаў з усіх відаў даходаў. Калі ж у іх не хапае якіх-небудзь дакументаў, неабходна звярнуцца ў адпаведны ваенкамат. Тыя ж грамадзяне, якія ў свой час пацярпелі ад рэпрэсій, а потым былі рэабілітаваны і атрымліваюць дапамогу ў размеры двухмесячнага акладу ці тарыфнай стаўкі на ранейшым месцы работы, падаткаў з гэтых сум цяпер не плоцяць.

**— Між іншым, людзі вельмі хутка заўважылі, што падаткі, якія прыйдзецца плаціць у тым месцы, дзе працуеш па сумяшчальніцтву, большыя, чым на асноўнай рабоце. Ці не прасочваецца тут імкненне дзяржавы некалькі «пастрыгчы» больш актыўную частку насельніцтва?**

— Такі падыход прыняты свядома, і вось чаму. Раней, як вядома, працаўнікі збіралі шмат даведак з месц, дзе яны мелі паўстаўкі, для асноўнай работы — і там ужо ўтрымліваліся падаткі па сукупнасці даходаў, працэнт якіх мог значна ўзрастаць. Цяпер колькасць папер зменшылася, што куды зручней для ўсіх.

Да таго ж, заўважце, на асноўнай рабоце цяпер можна зарабіць куды больш: падатак размерам у 12 працэнтаў налічваецца на суму да 3,5 тысячы рублёў. Раней жа такая стаўка падатку дзейнічала толькі ў межах адной тысячы.

**— Значная частка чытацкіх пытанняў носіць эканамічна-абагульняючы характар і непасрэдна звязвае новае падатковае заканадаўства і лібералізацыю цэн. Напрыклад, адразу заўважаецца сума ў 351 рубель, з якой пачынае «дзейнічаць» 12-працэнтная стаўка падатку. Робіцца і вывад: сярэдняга класу, дастаткова забяспечанага ў фінансавым плане, які ёсць у краінах Захаду і які ў асноўным падтрымлівае дзяржаўны бюджэт, у нас няма. Наадварот, большасць насельніцтва ў нас сёння — жабракі. Калі ж кілаграм каўбасы каштуе 200 рублёў, пара ботаў — 700, а месячная зарплата — 350 «рэ», то якія яшчэ падаткі можа ўзяць тут дзяржава?**

— Стаўкі падаткаў разлічаны менавіта з «парога» ў 350 рублёў — гэта ўстаноўлены ў рэспубліцы ўзровень мінімальнай заработнай платы. Малая дадзеная сума ці вялікая — гэта пытанне ў кампетэнцыі Вярхоўнага Савета.

Якім будзе прыток сродкаў у дзяржбюджэт? Лічбаў пакуль мы, зразумела, не маем, з цягам часу на гэта адкажа адпаведная статыстыка. Але дзяржава ўсё ж атрымае больш, чым мела да гэтага: усё-такі заработкі ў насельніцтва значна ўзраслі. Думаю, праўда, што з улікам інфляцыі ўзровень збалансаванасці бюджэту выйдзе «так на так».

**— Чытацкая пошта сцвярджае: сённяшняя падатковая палітыка ні прадпрыемствамі, ні прадпрымальнікамі, ні насельніцтвам не падтрымліваецца. Меры непапулярныя — што зробіш! Значыць, урад рызыкуе...**

— У Саўміне ёсць дадаткова спецыялістаў, у тым ліку і распрацоўшчыкаў па падатковаму заканадаўству. Ці вытрымае ўрад? Тут паўплываюць безліч фактараў, так што можна толькі гадаць...

**— Па ўсяму відаць, зменшыць ціск падатковага прэса ўрад пакуль не ў сілах. Аляксандр Уладзіміравіч, на развітанне хоць крыху парадуйце душу: ці адбудзецца зніжэнне падаткаў у некаторай перспектыве?**

— Пытанне вы задалі мне цяжкае. І, па праўдзе, не па адрасу. Таму і не буду маляваць вам ружовых карцін. Не ведаю...

**ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ. Каменціраваць прыведзеныя адказы рэдакцыя палічыла залішнім. Найлепшы каментарый дасць рэальнае жыццё — і ў самы бліжэйшы час.**

**Пытанні задаваў
Валерый ЧАРНЯЎСКІ,
аглядальнік «Звязды».**

ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

## Падзялі гэты боль

**КАЖУЦЬ, што людзі павінны пакутаваць у гэтым жыцці за грахі папярэдніх пакаленняў. Відаць так, калі браць за прыклад нашу сённяшнюю посткамуністычную галечу, вынішчанасць маралі, знявечанасць навакольнага асяроддзя.**

**Я ПРЫГАДАЎ гэта зусім не выпадкова. Перад вачамі стаіць бачанае нядаўна дзіця. Маленькі чалавек з'явіўся на свет без рук, злосны рок сказіў прапорцыі тулава, рысы твару... Дзіця нарадзілася інвалідам.**

**КОЛЬКІ ЛЮДСКОГА ЗЛА, колькі ўсялякай хімічнай, радыяцыйнай і іншай атруты павінна было сканцэнтравацца ў нябачнай кропельцы, што праела генетычны код чалавека. Відаць, расплата не прымушае чакаць.**

ГЭТА Я НЕ ПРЫДУМАЎ. Народжаных інвалідамі становіцца ўсё больш — так сведчыць медыцына. У большасці выпадкаў яны павялічваюць колькасць дзяцей, ад якіх адмовіліся бацькі.

Мінскі дом дзіцяці № 1 — першы прытулак скалечаных немаўлят. З нараджэння да чатырох гадоў жывуць яны пад гэтым дахам, дзе кожнага з іх выходжваюць, аберагаюць ад уплыву прыроджаных хвароб, па магчымасці навучаюць таму, што могуць іх здаровыя аднагодкі.

На жаль, некаторым выхаванцам не наканавана пражыць тут адзначаны тэрмін. Хвароба перамагае, і тады бязлітаснае полымя крэматорыя знішчае ўсё, што яшчэ нядаўна надзеяй і радасцю білася пад сэрцам маці.

І ўсё ж такі надзея на жыццё і міласэрнасць, а не смерць ахінае сваімі крыламі гэты прытулак. Галоўны ўрач Тамара Барысаўна Мурашова (яе аблічча як мага лепш пасуе да слоў пра медыцынскую прафесійнасць, жаночую прывабнасць і мацярынскую пяшчоту) так расказвае пра даручаную ёй установу:

— У нас сёння семдзесят тры дзіцяці. Стан іх вельмі розны. У некаторых вялікі набор захворванняў, але для кожнага робім усё магчымае. Калі пытаюць, наколькі цяжка наша праца — адказваем, што недасведчаным усё роўна не зразумець усіх складанасцей. Уявіце сабе, напрыклад, якую адказнасць адчувае медсястра, што застаецца на начное дзяжурства ў палаце з хворымі немаўлятамі. Дарэчы, існуючымі правіламі начное дзяжурства ўрачоў не прадугледжана.

— Калі ласка, Тамара Барысаўна, пазнаёмце нашых чытачоў хаця б з адной такой медсястрой.

— Перш-наперш скажу пра Аляксандру Іванаўну Марэцкую. Трыццаць восем гадоў працуе яна ў нас. Калісьці сама расла ў дзіцячым доме, відаць, таму больш за іншых ведае неабходнасць сваёй работы. Уяўляеце, які гэта каштоўны сплаў вопыту і маральных якасцей? Надзвычай працавітая, добрасумленная. Выхоўвае дзевяць немаўлят: даглядае, гатуе ежу, корміць, дае лекі. Добрыя спецыялісты ёсць і сярод маладых: сёння, напрыклад, дзяжурыць урач-педыятр Валянціна Смольская, лагапеды Людміла Дзядык, Святлана Анісовіч.

— Расказаць пра ўсіх вашых добрых медыкаў, на жаль, не хопіць газетнай плошчы. Напэўна, ёсць яшчэ надзейныя памочнікі-шэфы?

— Мы вельмі ўдзячны калектыву Мінскага завода медпрэпаратаў. Самі разумееце, на грошы наша ўстанова небагатая, так што калі трэба зра

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

**НА ЗДЫМКАХ:**

● Іх першы прытулак.

● Урач Валянціна **Смольская.**

● Гэта ўсё, што ёсць у немаўляці...

# УЛЬТЫМАТУМ УЛАДАМ

У адрас рэдакцыі прыйшла тэлеграма са зваротам калектываў прамысловых прадпрыемстваў Магілёва да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча.

У звароце, у прыватнасці, гаворыцца: дзеянні кіраўнікоў былога Саюза і рэспублік прывялі краіну да развалу, а эканаміку — да поўнай катастрофы. Паскоранымі тэмпамі ідзе збядненне народа, рэакцыя якога, на наш погляд, можа стаць непрадказальнай у гаспадарчых, але абсалютна не рынагчных адносінах пасля так званай лібералізацыі цэн. Паміж прадпрыемствамі назіраецца поўны беспарадак у захаванні прававых і нарматыўных актаў. Разгарнуліся вымаганне, ірвацтва па прычыне манапольнага становішча. Дагаворныя адносіны страцілі юрыдычную сілу. Адзіная эканамічная прастора, аб якой так шмат гавораць кіраўнікі Садружнасці, не працуе і не мае жыццёвай сілы. У кожнай рэспубліцы СНД устанаўліваюцца свае манапольныя цэны, якія перавышаюць разумныя межы (ад шасці да шасцідзесяці і больш разоў). Так, аб'яднанне «Стырол» у г. Горлаўцы на Украіне за адну тону ўдаратрывалага полістыролу патрабуе плаціць, з улікам 28-працэнтнага падатку, 128 тысяч рублёў замест 2 — 2,5 у 1991 годзе. «Запарожсталь» на Украіне ўстанаўлівае цану за адну тону ліставой сталі ад 10 да 15 тысяч рублёў замест 350 — 500 у 1991 годзе. ВА «Беларусгуматэхніка» за 1 тону поліурэтану ўстанавіла цану 262 тысячы рублёў супраць 8.220 у 1991 годзе. А Уфімскі нафтаперапрацоўчы завод павялічыў на пераксілол цану ў 39 разоў! Цана 1991 года — 586 рублёў, якая ў 1992 годзе абярнулася 23.000 рублёў.

Прыняты нядаўна пакет законаў аб падаткаабкладанні, асабліва ў частцы падатку на дабаўлены кошт у размеры 28 працэнтаў і інш., па сутнасці накіраваны на згортванне вытворчасці і збядненне насельніцтва. Складваецца ўражанне, што заканадаўцы ў Вярхоўным Савеце зусім адарваны ад жыцця, не ўяўляюць усю складанасць палітычнага і эканамічнага становішча ў рэспубліцы.

Адмова прадпрыемстваў Украіны і Расіі ад заключэння дагавораў у адпаведнасці са шматгадовымі сталымі сувязямі, адвольна ўстаноўленыя манапалістамі цэны вядуць да развалу вытворчасці, поўнага яе спынення не пазней сярэдзіны лютага гэтага года. Пры спыненні вытворчасці дзяржаўны бюджэт рэспублікі не атрымае запланаваных сродкаў з усімі наступнымі вынікамі.

У сувязі з гэтым прапануецца разгледзець і вырашыць наступныя пытанні:

Неадкладна сабрацца кіраўнікам Садружнасці Незалежных Дзяржаў для вырашэння пытанняў канкрэтнай эканомікі, у прыватнасці, абавязаць кіраўнікоў прадпрыемстваў у гэтых дзяржавах заключыць дагаворы на пастаўку прадукцыі на 1992 год на ўзроўні 1991 года па цэнах, прымальных для пастаўшчыка і спажыўца.

Абавязаць кіраўнікоў урадаў СНД выканаць у тэрміновым парадку пункт 11 пратакола ўзгодненых мер ад 24.12. 1991 года, падпісанага ўсімі кіраўнікамі ўрадаў СНД.

Устанавіць для манапольных пастаўшчыкоў прадукцыі парог цэн, якія перавышаюць не больш, чым у 4 — 5 разоў сярэднегадавыя цэны 1991 года, што знізіла б узровень інфляцыі і прывяло да стабілізацыі грамадскіх адносін.

Кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія ўхіляюцца ад заключэння дагавораў на пастаўку матэрыялаў і камплектуючых, прыцягнуць да адказнасці, аж да крымінальнай.

Забараніць прадпрыемствам прадаваць прадукцыю на біржах, пакуль не будуць заключаны дагаворы і задаволены патрэбы спажыўцоў у адпаведнасці з гэтымі дагаворамі. Пры гэтым аўтары тэлеграмы лічаць, што дзеянні шматлікіх біржаў, якія, на іх думку, ператварыліся ў сапраўднасці ў буйныя спекулятыўныя кааператывы па куплі-продажу, не вядуць прамысловасць да стабілізацыі, а, наадварот, узмацняюць інфляцыйныя працэсы і ў выніку зніжаюць жыццёвы ўзровень народа.

Устанавіць разумнае фіксіраванне суадносін паміж ростам заработнай платы і ростам цэн.

Перагледзець стаўкі падатку на дабаўлены кошт, устанавіўшы іх на ўзроўні не больш 10 працэнтаў, каб зняць прэс эканамічнага ціску цэн на насельніцтва і, адпаведна, прадпрыемствы.

У звароце таксама асуджаецца лібералізацыя цэн, як неапраўданая і паспешлівая, бо не створана абсалютна ніякіх умоў для станаўлення і развіцця рынку. У гэты цяжкі для рэспублікі і народа час патрэбны новыя захады і рашэнні для выхаду з палітычнага і эканамічнага крызісу, якія трэба шукаць не адміністрацыйным, а цывілізаваным шляхам.

Аўтары спадзяюцца, што іх голас будзе пачуты ў вышэйшых кіруючых органах рэспублікі. Час бясплённых размоў прайшоў, нас могуць выратaваць толькі прадуманыя дзеянні ў эканамічных адносінах, якіх яны не бачаць у практычнай рабоце. Пастаўленыя імі пытанні яны просяць разгледзець і прыняць па іх рашэнні не пазней 1 лютага гэтага года.

У адваротным выпадку, падкрэсліваецца ў тэлеграме, калектывы пакідаюць за сабой права дзейнічаць у адпаведнасці з абстаноўкай, у тым ліку патрабаваць роспуску Вярхоўнага Савета рэспублікі, адстаўкі ўрада.

**Тэлеграму, па даручэнню калектываў, падпісалі У. Яфанаў, генеральны дырэктар ВА «Хімвалакно», У. Сямёнаў, генеральны дырэктар ВА шаўковых тканін, А. Катляроў, генеральны дырэктар ВА «Магілёўдрэў» — усяго 20 кіраўнікоў буйнейшых прадпрыемстваў Магілёва.**

# РозГАЛАС

З ДАЛЁКАГА І БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

## ПАТРЭБНЫ ПАРАВОЗАЛЁТЫ!

Дэфіцыт бензіну стварае пагрозу поўнага спынення аўтобуснага руху ў Латвіі. Рыжскія аўтобусы курсіруюць толькі ў гадзіны «пік», да мінімуму скарочаны міжгароднія перавозкі. У сувязі з адсутнасцю гаручага адменена большасць авіярэйсаў з Рыгі, акрамя трох маршрутаў удзень на Маскву, а таксама на Хельсінкі, Капенгаген і Стакгольм. Як заявіў генеральны дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства па забеспячэнню нафтапрадуктамі «Латвіяс нафтан» Інтс Янсанс, рэзервы бензіну і іншага гаручага цалкам скончыліся. Бензіну амаль няма і на «чорным» рынку. Хоць там цана адной каністры перавысіла ўжо 300 рублёў.

## АДЗІН ПАСОЛ У ТРОХ КРАІНАХ

Урад Ізраіля вырашыў акрэдытаваць аднаго пасла адначасова ў Латвіі, Літве і Эстоніі, паведаміў пасол Ізраіля ў Маскве Ар'е Левін, які знаходзіцца ў Рызе з афіцыяльнай місіяй. Левін сцвярджае, што гэта зусім не азначае, што Ізраіль разглядае тры дзяржавы як нешта адзінае. Найбольш верагодным месцам размяшчэння пасольства ён назваў Рыгу.

У ліку першачарговых задач Левін назваў устанаўленне эканамічных сувязей з прыбалтыйскімі дзяржавамі. Ізраільскія партнёры гатовы прадставіць цэлы пакет узаемавыгадных камерцыйных прапаноў. Некаторыя з іх датычаць сельскай гаспадаркі, і асабліва жывёлагадоўлі. Пасол паведаміў, што у бліжэйшы час мяркуецца пачаць перагаворы аб адкрыцці рэгулярнай авіялініі Тэль-Авіў — Рыга.

## На табе, Божа, што нам нягожа

Былая авіякампанія ГДР «Інтэрфлюг» завяршыла распродаж самалётаў. Даход склаў 300 мільёнаў марак. 5 машын ІЛ-18 набыла новая авіякампанія ў Берліне. Астатнія самалёты савецкай вытворчасці купіў «Аэрафлот».

## Грошы Эстоніі не патрэбны

Эстонія паведаміла дзяржавам былога Саюза, што са студзеня не прымае на свой адрас грашовых пераводаў, — заявіў генеральны дырэктар «Ээсці пост» (Эстонскай пошты) Літвінаў.

Літвінаў бачыць рашэнне праблемы ў тым, каб эстонскія і расійскія банкі нарэшце дамовіліся паміж сабой.

## Не спазняйцеся на маскоўскі поезд!

**Перад самым выхадам у свет гэтага нумара «Звязды» ў рэдакцыю патэлефанаваў начальнік станцыі Мінск-Пасажырскі Ф. Петраковіч і папрасіў праінфармаваць чытачоў, што па патрабаванню Масквы поезд № 4 Мінск — Масква з 19 студзеня будзе адпраўляцца ад станцыі Мінск-Пасажырскі ў 18 гадзін 32 мінуты, г. зн. НА ГАДЗІНУ РАНЕЙ.**

**Так што не спазняйцеся!**

## У нядзельнай школе—хараша!

РАГАЧОЎ. Нядаўна тут адкрылася яшчэ адна школа — нядзельная, якая дзейнічае пры царкве. Яе наведваюць 60 хлопчыкаў і дзяўчынак 8—14-гадовага ўзросту.

Заняткі з імі ў выглядзе гутарак праводзіць а. Пётр, які выкладае Закон Божы. Ён таксама знаёміць дзяцей з гісторыяй царквы і сутнасцю рэлігійных святаў.

## Плакаў долар...

Фірму «Нота» ў Навагрудку добра ведаюць. Яна адна з тых, хто «робіць грошы» на паездках нашых суайчыннікаў у суседнюю Польшчу. Праўда, для апошніх такія паездкі не заўсёды аказваюцца ўдачнымі. У гэтым пераканаліся 42 жыхары горада, калі на днях вярталіся з Беластока. Аўтобус, які да таго прайшоў не адну тысячу кіламетраў па нашых слаўных дарогах, ехаць адмовіўся, больш таго — успыхнуў чырвоным полымем. Пасажыры, ратуючы адначасова свае пакупкі, кінуліся ратавацца самі. На шчасце, вялікай бяды не адбылося. Акрамя адной: дамоў кожны дабіраўся, хто як мог.

ПАДАРОЖЖЫ «ЗВЯЗДЫ»

Рэпартаж з вострава, які ў дзяцінстве мы называлі Цэйлонам

# Дагнаць бы нам Шры-Ланку...

(Працяг. Пачатак у № 10).

### ПРА МАГАЗІНЫ І ЦЭНЫ

Наведаем іншыя магазіны. Але спачатку возьмем сябе ў рукі. У гандлёвай зале прадуктовага магазіна — сотні разнастайных тавараў і не больш пяці пакупнікоў. За якіх пяць хвілін можна купіць усё неабходнае і атрымаць ад гаспадара магазіна «вялікі дзякуй», што наведалі менавіта яго магазін. Потым можна прайсці пешшу па галоўнай вуліцы Каломба, якая цягнецца ўздоўж акіяна кіламетраў на пятнаццаць. Тут сотні, а можа і тысячы магазінаў і магазінчыкаў. У іх вы знойдзеце абсалютна ўсё: ад гузікаў на любы густ да самых шыкоўных аўтамабіляў. Ветлівыя, добразычлівыя прадаўцы сустракаюць наведвальніка, як роднага брата. Асаблівая ўвага белым пакупнікам. Мясцовыя гандляры абсалютна ўпэўнены: калі белы — значыць вельмі багаты. На лбе не напісана амерыканец ты ці беларус. Раблю выгляд багатага чалавека, абыякава разглядаю цудоўныя японскія гадзіннікі і запэўніваю прадаўца, што мой «Прамень» таксама выдатная рэч. Я нічога не купіў, але прадавец дзякуе за тое, што зайшоў да яго, сардэчна паціскае мне руку і працягвае сваю візітную картку: «Заходзьце, мы заўсёды рады вас бачыць».

Я ўручаю яму значок, на якім адлюстраваны мой Мінск на фоне залатой зоркі. Развітваемся, як даўнія, добрыя сябры. «У кожны магазін заходзіць нельга, значкоў не хопіць»,— папярэджваю сам сябе.

Зразумела, мяне цікавяць цэны і зарплата. Рабочы высокай кваліфікацыі атрымлівае ў месяц амаль дзве тысячы рупій, здольны журналіст — 4 тысячы. Французскі каньяк «Напалеон» каштуе таксама 4 тысячы. Калі не жадаеце каньяку, на гэтыя грошы можаце купіць пяць цэнтнераў ананасаў. Або дзесяць куртак сабе і сваёй жонцы. Або адзін японскі веласіпед.

Па плошчы Шры-Ланка меншая за нашу Беларусь утрая, а па колькасці насельніцтва нашу рэспубліку перавышае. Тут жыве 16 мільёнаў чалавек. Яшчэ некалькі гадоў назад аўтамабіль на сталічных вуліцах быў рэдкасцю. Сёння ў Каломба можна ўбачыць соткі амерыканскіх, нямецкіх, італьянскіх, японскіх аўтамашын. Магутным патокам пайшлі сюды тавары з усіх куткоў планеты. Спачатку за выдатны цэйлонскі чай. Потым урад краіны смела і рашуча адкрыў дзверы замежнаму капіталу. Сталі будаваць фабрыкі па пашыву адзення. Заходнія краіны завезлі сучаснае абсталяванне, укаранілі перадавыя тэхналогіі (плюс танная рабочая сіла), і праз самы кароткі час выдатнае адзенне пайшло адсюль у розныя краіны свету. Яго экспарт выйшаў на першае месца, чай апынуўся на другім. У краіне амаль знікла беспрацоўе, паліцы магазінаў хутка напоўніліся самымі разнастайнымі таварамі, дабрабыт людзей імкліва пайшоў угору.

Шры-Ланка — краіна прыгожых, вельмі добразычлівых і шчырых людзей. Усюды вас сустрэнуць сардэчна, з усмешкай. З акна аўтамабіля вы ветліва махнулі рукой людзям, якія стаяць на аўтобусным прыпынку—і адразу ў адказ узнімаецца лес рук.

Ніхто нікому не зайздросціць. У прэзідэнта краіны Ранасінтэ Прамадаса ёсць палац. Гэта беласнежны будынак казачнай прыгажосці, у якім, бадай, не менш як сто пакояў. Ля ўваходу на чырвоным дыване стаіць гвардзеец. Не для аховы, а дзеля ўрачыстасці. І ніхто—ні ў парламенце, ні на вуліцы — не ўзнімае пытання аб прывілеях прэзідэнта, аб колькасці яго пакояў. Людзі ганарацца, што здолелі пабудаваць такі палац - прыгажун для свайго прэзідэнта. А мы ганарымся, што ў нашага паважанага Шушкевіча ўсяго два пакойчыкі...

**Мікалай АМЕЛЬЧАНКА, спец. кар. «Звязды». Фота аўтара.**

(Працяг будзе).

МІНІ-АПЫТАННЕ

# Платная медыцына. Вы за?

**Н. Цімашчук, кандыдат эканамічных навук:**

— Я супраць. Бясплатная медыцына — гэта наша дасягненне. І мы не павінны яго губляць. Я не хачу, каб вярнуўся шаснаццаты год. Менавіта тады ў майго бацькі, а ён тады быў пяцігадовым дзіцем, пачало балець вока. Паказаць урачу змаглі. Гэта каштавала мала. А на лячэнне грошай не хапіла. Вока выцекла. Так і застаўся чалавек калекам на ўсё жыццё. Таму я і лічу: няхай лепш наша дзяржава дасць урачам, нават адарваўшы ў нас, самую высокую зарплату — асабліва высокакваліфікаваным,—каб нарэшце гэтая прафесія стала прэстыжнай.

**Думка звычайнай сялянкі** — так яна назвала сябе. Імя сказаць адмовілася, бо лічыць дарэмнымі ўсе гэтыя размовы, таму што, па яе словах, савецкай улады ўсё роўна ўжо няма. А пра сябе яна расказала такую вось гісторыю:

— Захварэла я ў час вайны на горла. Нямецкі ўрач паставіў страшны дыягназ — склярома. Гэта рэдкае захворванне, якое сустракаецца ў асноўным у жыхароў Заходняй Беларусі і Украіны. З асаблівасцямі клімату звязана. Каб лячыцца, трэба было плаціць. А каб мець чым, трэба было працаваць. Вось я цэлы дзень працавала, а вечарам хадзіла на лячэнне. Хоць трэба было ляжаць у ложку. Такое лячэнне прывяло да таго, што хвароба мая прыняла хранічную прагрэсіруючую форму. І толькі дзякуючы савецкай уладзе, якая нам дала бясплатную медыцыну, я жыву, працую, выгадавала дзяцей. Адзін раз у тры гады кладуся на месяц у абласную бальніцу, каб прайсці курс лячэння з хірургічным умяшаннем. Цікавілася — адзін дзень майго лячэння абыходзіцца дзяржаве каля ста рублёў. Ці ж здолела б я са сваёй кішэні столькі плаціць кожны раз? Вядома — не.

**А. Гаўрыловіч, інжынер-нарміроўшчык:**

— Я лячу зубы ў платнай стаматалагічнай паліклініцы. Падабаецца мне, што тут усё хутка і якасна. Стаяла ў чарзе на пратэзіраванне ў 9-й паліклініцы. Прайшлі тры гады, а чарга ні з месца. Хадзіла нават да галоўнага ўрача. Не дапамагло. Звярнулася ў платную. Запісалі. Праз паўгода атрымала паштоўку з запрашэннем. Палячылі мне тры зубы і паставілі каронкі. Усё добра, але дорага. Я падлічыла, што абыдзецца мне лячэнне і пратэзіраванне недзе каля 700 рублёў. Добра, што я яшчэ працую і змагу заплаціць. А як быць пенсіянерам? Не разумею толькі, чаму не арганізаваць справу ў гарадскіх паліклініках так, як у платнай? Каб усё было хутка і зручна.

**В. Герасімёнак, стажор-даследчык Інстытута мікрабіялогіі АН:**

— Так, за грошы лечаць зубы лепш, чым бясплатна. І ўрачы ўважлівыя і акуратныя. Нават машына не так страшна вішчыць. Але дорага. Можа, каб толькі некаторыя паслугі былі платнымі? На ўсё — зарплаты не хопіць.

А наогул — гэта ў некаторай ступені стымул да здаровага ладу жыцця. Трэба імкнуцца жыць так, каб менш хварэць.

**Т. Якабчук** пайшла за плату лячыць зубы па парадзе сваёй сяброўкі В. Герасімёнак:

— Я згодна з тым, каб уся медыцына была платнай, але толькі каб абслугоўванне было вартым таго. Бо ўсё роўна прыходзіцца плаціць — цукеркамі, каньяком, ці яшчэ чым-небудзь. Інакш на цябе ў бальніцы — я нядаўна ляжала там — ніхто і не гляне.

**В. Бохан, медсястра платнай стаматалагічнай паліклінікі:**

— Хутчэй за ўсё я пайшла б лячыць зубы да нас. Тут і тэхніка лепшая, і матэрыялы, і абслугоўванне. Толькі дорага, канешне.

**М. Ваўчок, загадчык тэрапеўтычнага аддзялення платнай стаматалагічнай паліклінікі:**

— Я за платнае лячэнне. Папершае, плата за паслугу дае правільнае ўяўленне аб самой паслузе. А бясплатная паслуга — гэта як нейкая ласка. Падругое, яна стымулюе ў медработнікаў адказнасць за выкананне імі сваёй работы. Па-трэцяе, гарантуе ім зарплату. У нашым статуце так і запісана, што мінімум зарплаты не гарантуецца, а максімум не абмяжоўваецца. Іншымі словамі, твой заробак цалкам залежыць ад тваіх адносін да працы.

***

**Але, напэўна, нельга, каб усё было платным. Зараз адбываецца расслаенне грамадства на багатых і бедных. Чалавек страціў рабочае месца. А калі ён яшчэ страціць і веру ў дапамогу? Трэба стварыць аднолькавыя ўмовы і ў платных, і ў бясплатных паліклініках. Узровень зарплаты і матэрыяльная аснашчанасць павінны быць аднолькавымі. А для пацыента — і тут, і там найлепшыя ўмовы. І чалавек павінен мець магчымасць выбіраць.**

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## ПРАПАРШЧЫК, РАЗДАЙЦЕ ПАТРОНЫ

БРЭСТ. **(Ю. Фёдарава).** Надзвычайнае здарэнне ў Н-скай часці Брэсцкага гарнізона. Са сховішча боепрыпасаў украдзена больш 2.000 патронаў да аўтамата Калашнікава, дзесяткі баявых гранат.

Шмат прыйшлося папрацаваць афіцэрам ваеннай пракуратуры і супрацоўнікам ваеннай контрразведкі, каб зноў устанавіць заведзены парадак у арсенале. Усе гранаты і патроны знойдзены. У крадзяжы боепрыпасаў абвінавачаны прапаршчык і сяржант.

## МАЦІ—ЗАБОЙЦА

**РАГАЧОЎСКІ РАЁН. У вёсцы Ціхінічы ва ўласным доме знойдзены труп рабочага аграфірмы «Ціхінічы» М. Судмедэкспертыза ўстанавіла, што смерць наступіла ад удару па галаве «тупым прадметам».**

**За ўчыненае злачынства затрымана маці загінуўшага. Яна прызналася, што ў час сваркі ўдарыла сына... качаргой па галаве.**

## НЯВОПЫТНАСЦЬ КАШТУЕ ДОРАГА

**МІНСК. У Савецкі райаддзел міліцыі звярнулася работніца выдавецтва «Вышэйшая школа» К. Яна заявіла, што раніцай да яе ў кватэру, дзе знаходзілася толькі 17-гадовая дачка, зайшлі двое незнаёмых, і, прымяніўшы газавы балончык, забралі відэамагнітафон «Панасонік», японскую двухкасетную магнітолу, 300 долараў ЗША, паўтысячы германскіх марак, 1.280 рублёў і некаторыя іншыя рэчы. Следства пакуль працягваецца, а міліцыя ўжо стамілася паўтараць: не адчыняйце дзверы незнаёмцам — іх візіт можа дорага каштаваць...**

## З «ШАПАЧНІКАМІ» ВАС, СПАДАРСТВА!

**Небяспека застацца без шапкі, калі яна з нейкага каштоўнага футра, гэтай зімой рэзка павялічылася. Амаль кожны дзень у міліцэйскіх зводках ідуць паведамленні аб «працоўных буднях» «шапачнікаў». Свежы прыклад. У рэдактара выдавецтва БелСЭ на вуліцы Сурганава сарвалі з галавы шапку з футра нутрыі. Устаноўлена, што гэта зрабіў Б., дзесяцікласнік сярэдняй школы № 200 г. Мінска.**

**Калі ўлічваць тую акалічнасць, што на Камароўцы шапкі каштуюць ад двух да пяці тысяч, то мы рызыкнём выказаць свой прагноз: радам «шапачнікаў» множыцца і множыцца.**

ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

**Уладзімір ГОЙТАН**

# Банда Мезіна

**(Працяг. Пачатак у №№ 8—10).**

Мезін па кабелі залез на дах — адтуль, яму здавалася, больш зручна залезці ў акно. У той жа час Карплюк абрэзаў тэлефонны кабель, «фомкай» узламаў дзверы. Не ўлічылі, што памяшканне касы падключана да сігналізацыі. Раптам заміргаў над уваходам сігнальны ліхтар, а тут яшчэ спрацавала і гукавая сігналізацыя. Карплюк паспрабаваў заткнуць горла равуну, доўга мацаў па сцяне рукой, шукаючы кабель. Марна. Да таго ж у памяшканні быў вартавы. Праўда, ён іх не вельмі напалохаў, маглі і прышыць, але вось праклятая сірэна не змаўкае. Збягуцца людзі, наляціць міліцыя... Час абрывацца... А якое шаленства проста-такі асляпіла Мезіна, калі, прыйшоўшы раніцай да сябе ў райаддзел міліцыі, даведаўся, што ў тым сейфе ляжала больш за 81 тысячу рублёў. Такі «ўлоў» выпусціў з рук! Гэта быў сур'ёзны пракол.

Трэба было тэрмінова мяняць тактыку. Напалоханыя адным, а затым і другім грабяжом (няхай сабе другі быў і няўдалы), гаспадарчыя кіраўнікі прымуць усе меры па ўзмацненню аховы сваіх сейфаў. І няўдачы ў «Мормале» — таму пацвярджэнне.

На месцы лёгка зрабіць такія завалы, што і дынамітам не праб'еш. Да таго ж у дзень зарплаты асноўную частку грошай паспяваюць выдаць, на вечар, як правіла, застаецца дробязь. Ці варта з-за гэтага рызыкаваць? А вось па дарозе, калі касір вяртаецца з банка... Пераняць на дарозе — і справе канец.

Задумана — зроблена. Вырашылі выкарыстаць для гэтай мэты хуткасныя матацыклы. Укралі адну «Яву», затым Тацццяна Мезіна прыгледзела яшчэ такога ж быстраходнага «мустанга». Укралі і яго. Спачатку хавалі крадзенае ў гаражы ў Мезіна, а затым вывезлі ў поле і схавалі ў тарпе саломы. Аднак не толькі ў сябраў былі пільныя вочы на чужое дабро. Хтосьці ўгледзеў тайнічок, украў адну «Яву». Давялося спаліць і другі матацыкл.

Не атрымалася з матацыкламі, дык чаму б не паспрабаваць «зняць» касіра з дапамогай аўтамашыны? Знайшлі і адпаведны аб'ект — калгас «Іскра». Пры ўдалым збегу акалічнасцей можна будзе сарваць добры куш. А каб не здарылася праколу, трэба было самым старанным чынам абдумаць кожную дэталь. Перш за ўсё патрэбны быў грузавік, з дапамогай якога ўдалося б «дзеўбануць» калгасны «ўазік» з касірам. Забраць грошы, перасесці ў машыну — усяго і спраў. Можна паспець за лічаныя мінуты. Зразумела, хтосьці можа прыкмеціць нумар машыны. Ну і няхай. Заехаць у бліжэйшы лясок, каністру бензіну — у салон, чыркнуць запалкай... Самі перасядуць у мезінскія «Жыгулі» — толькі іх і бачылі. Ды і каму ў галаў прыйдзе западозрыць работніка міліцыі ў грабяжы?

«ЗІЛ-554» сябры ўкралі з мехдвара саўгаса «Лукскі», а «Жыгулі» «пазычылі» ў свайго ж жлобінскага жыхара Н. Кабарды.

Вырашылі змяніць аблічча. Добра Мезіну — невысокі ростам, хударлявы, словам, пры адпаведнай экіпіроўцы можа лёгка выдаць сябе за жанчыну. Тацццяна сама зрабіла мужу выдатны рыжы парык, нафарбавала вусны, нават цені падвяла. Пакуль разбяруцца, што за «амазонка» арудавала, можна будзе замесці след. Больш складана было з Гігалаевым — Мішка паспеў адгадаваць «працоўны мазоль». З такім даважкам — усякі заўважыць. Знайшлі бандаж — звычайна такія прымяняюць жанчыны. З яго дапамогай і вырашана было таўстуну надаць адпаведную форму. Толькі ці размер быў не той, а хутчэй — пуза безразмернае, ва ўсялякім выпадку «паясок» ніяк не сыходзіўся. А тут з хвіліны на хвіліну павінен пад'ехаць Мезін, каб асабіста пераканацца ў іх поўнай гатоўнасці. Лопнула цярпенне ў Аляксандра Карплюка. Быццам мядзведзь абхапіў рукамі гэтую бочку піўную, кінуў на зямлю. Націснуў каленам — аж дых заняло, затое бандаж удалося сяк-так зашпіліць. Пуза амаль удвая зменшылася, вось толькі дыхаць не было як. Не бяда, некалькі мінут можна і пацярпець.

Мезін агледзеў нязграбную фігуру Гігалаева, задаволена хмыкнуў, затым махнуў рукой, маўляў, сядай за руль грузавіка і глядзі пільным вокам.

Удалечыні паказаўся «ўазік». У той жа момант Міхаіл Гігалаеў націснуў на стартэр. І калі машына з калгасным касірам амаль параўнялася з ім, рэзка вывернуў руль улева. Міхаіл грудзьмі адчуў тупы ўдар — ледзь руль не вырвала з рук. А як тым, што ва «ўазіку»? Ледзь не перакуліліся ў кювет, крышка над капотам стала дыбам.

У той жа момант з «Жыгулёў» кінуўся насустрач Мезін.

— А ну выкочвайся хутчэй! — тузануў ён дзверцы. — І чамадан з грашыма сюды.

Схапіў абедзвюма рукамі цяжкаваты чамадан, амаль даверху напоўнены тугімі пачкамі банкнотаў. Ого! Такой сумы зроду не бачыў.

Пад'ехаў нейкі грузавік. Убачыўшы, што сутыкнуліся машыны, вадзіцель, відаць, вырашыў дапамагчы і крыху прытармазіў. Аднак Карплюк пальнуў пару разоў з абрэза — і той сцяміў: спыняцца небяспечна. Ва ўсялякім выпадку, толькі клубы дыму засталіся на дарозе.

Не марудзячы ні хвіліны, Мезін і Карплюк заскочылі ў «Жыгулі», дзе іх ужо чакаў Гігалаеў. Ні вадзіцель «ўазіка», ні жанчыны, што сядзелі ў машыне, нават апамятацца не паспелі. Пра касірку і гаварыць няма чаго — той і зусім мову адняло, яна добра ведала, колькі было ў тым чамадане грошай, — месячная зарплата ўсяго калгаса.

Вось і яго, Мезіна, «Жыгулі», у салоне Тацццяна. Быццам усё спакойна. Прытармазіўшы, ён перасеў у сваю машыну, на ходу крыкнуўшы:

— Садзіся за руль і газуй следам за намі.

Па дарозе зноў трапіўся сустрэчны веласіпедыст, які спрабаваў адшукаць грыбы то ў адным прыдарожным ляску, то ў другім. Але ім было не да яго. Затое ён іх добра запомніў. А тут яшчэ з лесу, куды збочылі двое «Жыгулёў», раптам узняўся слуп дыму. А праз некалькі мінут адтуль выехала ўсяго адна машына. Ведаць бы Мезіну, з якім чалавекам спаткаліся і якая ў яго памяць на твары...

Ужо дома, перабіраючы тугія пачкі грошай, уся чацвёрка не ведала, што рабіць з тым вялізным багаццем, што звалілася на іх. Першай схамянулася Тацццяна. Пералічыла ўсё да капейкі — больш за 124 тысячы рублёў.

— Няхай пакуль «бабкі» пабудуць у нас, — уладарна распарадзілася яна. — Прыйдзе час — кожны атрымае сваю долю. А пакуль усім залегчы на дно. Зараз вас да іх і блізка падпускаць нельга: развееце па рэстаранах, на след навядзеце. Усяму — свая чарга.

«Вось чортава баба! — з захапленнем падумаў Мезін. — А і сапраўды разумна разважае. Цяпер прыцягваць да сябе ўвагу зусім не патрэбна».

На рабоце быццам усё засталося па-ранейшаму. Сярод саслужыўцаў толькі і размоў пра дзёрзкае абрабленне касіркі. Разам з усімі Мезін абураўся нахабствам рабаўнікоў: сярод белага дня ўчыніць такое! Вядома ж, далёка не ўцякуць, з такой сумай рана або позна засвецяцца. А сам у душы пасмейваўся над іх бязглуздай упэўненасцю: шукайце ветру ў полі! І толькі калі сустракаў начальніка аддзялення крымінальнага вышуку капітана Парашчанку, яму рабілася ніякавата. Некалькі разоў лавіў на сабе яго дапытлівы позірк. Быццам у душу зазіраў. А тут яшчэ адзін з саслужыўцаў настукаў: маўляў, чуў, як Мікалай Парашчанка настойліва раіў прыезджаму сталічнаму начальству лепш прыгледзецца менавіта да Мезіна, быццам у Парашчанкі ёсць наконт гэтага сякія-такія доказы. Нават пахаладзеў ад такой шчырасці. Але выгляду не падаў.

— Такая ў нас служба: падазраваць усіх і ўсё, — праз сілу ўсміхаючыся, заўважыў ён. — Лішняга не балбачы. А калі пачуеш, што пад мяне капаюць, папярэдзь. Камусьці я стаў упоперак дарогі. Таго ж Парашчанку ўзяць: на мяне стукае, а ў самога, відаць, рыльца ў пуху. Даўно да яго прыглядаюся.

Скеміў: лепшы сродак пры абароне — нападзенне: важна своечасова пусціць плётку, а там яшчэ бабка надвое варажыла, чыя возьме.

(Працяг будзе).

## На фазэндзе ў Жагальскага

ПІНСКІ РАЁН **(С. Шапіра).** Славуты фермер Піншчыны Андрэй Жагальскі з задавальненнем дзеліцца сваімі сакрэтамі з тымі, хто, як і ён, вырашыў звязаць сваё жыццё з зямлёй. Слава аб ім дайшла не толькі да самых аддаленых куткоў Брэстчыны, але і да суседняй Польшчы. Зусім нядаўна ў яго пабываў у гасцях кіраўнік буйной сялянскай гаспадаркі з Люблінскага ваяводства. Ён даў высокую ацэнку поспехам нашага земляка. І сапраўды, мінулы год аказаўся для Жагальскага ўдалым. Са сваёй фермы Андрэй Рыгоравіч прадаў дзяржаве 23 тоны малака, 3,5 тоны ялавічыны і бараніны.

## Булахаў застаецца?

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Булахаў пацвердзіў, што з 20 снежня мінулага года яго заява аб пакіданні пасады Старшыні Камісіі ВС РБ па заканадаўству ляжыць на стале ў Станіслава Шушкевіча. Дзмітрый Булахаў адмовіўся даваць якія-небудзь каментарыі, аднак сказаў, што працягвае працаваць над канцэпцыяй судова-прававой рэформы ў Беларусі і лічыць гэту справу самай галоўнай.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

○ Парламент Латвіі звярнуўся да дабрачынных арганізацый іншых краін з просьбай тэрмінова аказаць дапамогу, асабліва харчаваннем і медыкаментамі.

○ **Японія мае намер асігнаваць 50 млн. долараў на аказанне дапамогі СНД. Міністр замежных спраў Японіі афіцыйна паведаміць аб далейшых планах краіны па аказанню гэтай дапамогі на будучым тыдні ў Вашынгтоне. Летась на гэтыя мэты Японія абяцала асігнаваць 600 млн. долараў, але не стрымала слова па тэхнічных прычынах.**

○ Адзін з вядучых лідэраў Сербіі заявіў, што Харватыя можа лічыць сябе незалежнай у рамках той тэрыторыі, якую яна займае ў сённяшніх межах. Тэрыторыі Харватыі, захопленыя федэральнай арміяй, ён лічыць ужо сербскімі. Тым часам харваты імкнуцца вызваліць захопленыя землі любымі шляхамі.

○ **Прэзідэнт Буш паабяцаў дабівацца звяржэння лідэра Ірака Садама Хусейна. Прадстаўнік Белага дома аб'явіў, што ЗША не плануюць якіх-небудзь аднабаковых акцый супраць Хусейна.**

○ ЗША абвінавачваюць Кітай у тым, што ён капіруе амерыканскія тавары і нічога за гэта не плаціць іх аўтарам. ЗША пагражаюць карнымі пошлінамі на імпарт кітайскіх тавараў. Кітай у сваю чаргу таксама абяцае прыняць меры ў адказ.

### БІ-БІ-СІ

○ **У нямецкіх газетах з'явіліся паведамленні аб тым, што большасць яе гуманітарнай дапамогі былому СССР трапляе на «чорны» рынак. Пасля аб'яднання Германія аказала дапамогу агульным коштам каля 35 млрд. долараў. А гэта, як указвае Бон, складае 70 працэнтаў усёй заходняй дапамогі былым савецкім рэспублікам. Цяпер, на погляд Бона, настаў час іншым краінам унесці свой уклад у гэту справу.**

○ **Адвакаты путчыстаў патрабуюць не выпускаць Гарбачова з краіны. Яны звярнуліся у Міністэрства замежных спраў Расіі з просьбай абавязкова разгледзець гэта пытанне, бо, магчыма, давядзецца прыцягнуць Гарбачова як сведку да ўдзелу ў працэсе над путчыстамі. Працэс над арганізатарамі путчу абяцае быць вельмі гучным.**

○ Захад заклапочаны магчымым выездам спецыялістаў па ядзернай зброі былога СССР. Усяго там з ядзернымі аб'ектамі звязана каля 900 тысяч чалавек. З іх 2.000 — непасрэдна з распрацоўкай ядзернай зброі. Ад трох да пяці тысяч займаліся абагачэннем урану і вырабам плутонію. Некаторыя з гэтых спецыялістаў за вялікія грошы могуць быць запрошаны ў краіны трэцяга свету, якія імкнуцца стварыць уласную ядзерную зброю. Гэта — Паўночная Карэя, Пакістан, Ірак і Лівія.

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

○ Адзін з кіраўнікоў ваеннага савета Грузіі, Іаселіяні, заявіў, што прыхільнікі Гамсахурдыя ў Мінгрэліі не ўяўляюць сур'ёзнай пагрозы новаму ўраду. Аднак, як адзначаюць журналісты, у сельскіх раёнах Гамсахурдыя пакуль яшчэ карыстаецца моцнай падтрымкай насельніцтва.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

## Размовы вакол мовы

ГРОДНА. Мы ўжо паведамлялі аб канфлікце вакол беларускай мовы, які разгарэўся ў сярэдняй школе № 11. Сёлета школа стала беларускамоўнай, аднак многія бацькі сустрэлі гэту падзею ў штыкі і звярнуліся ў абласную пракуратуру з заявай аб тым, што, маўляў, парушана права «кампактна пражываючых рускамоўных сем'яў» на навучанне дзяцей на рускай мове. Пракуратура накіравала ў Гродзенскі гарвыканкам пратэст у сувязі з парушэннем Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Выканкам адхіліў пратэст на той падставе, што «кампактна пражываючых рускамоўных сем'яў» у гэтым мікрараёне няма.

І вось справа разгледжана ў Ленінскім раённым судзе. Устаноўлена, што дзеянні гарвыканкама не супярэчаць Закону аб мовах. Мікрараён, дзе знаходзіцца 11-я школа, сапраўды не з'яўляецца месцам кампактнага пражывання грамадзян рускай нацыянальнасці. Нават сярод бацькоў — аўтараў пісьма ў пракуратуру, большасць — беларусы і палякі. Да таго ж, у цэлым па горадзе забяспечваюцца гарантыі атрымання адукацыі на рускай мове. У выніку суд адхіліў заяву пракурора Гродзенскай вобласці аб прызнанні незаконнымі дзеяннях гарвыканкама.

